# Анатоль Грачанікаў

# Дрэва на выспе

вершы
і паэма



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1977

## ЗНАХОДКІ І ДАРЫ

Віруюць
На зямлі маёй падзеі.
Ніколі
Іх не спыніць часу гаць.
Усё радзей
Спаўняюцца надзеі,
Усё часцей
Я мушу шкадаваць.
Я мушу шкадаваць
Аб тым далёкім,
Што ў памяці засела
Назаўжды...

Жыццё, жыццё!
Ты не праходзіш бокам,
Але і не ратуеш
Ад бяды.

Груз цяжкі
Паўсядзённасці суровай
Я адчуваю
На сваім гарбе.
У пошуках
Гармоніі жыццёвай
Знаходжу
Супярэчнасці ў табе.
І чым глыбей

Я з прагаю пазнання
Ныраю
У жыццёвыя віры,
Тым большыя
Твае выпрабаванні
І меншыя —
Знаходкі і дары.

Мабыць, і мне,
Жыццё,
Тваёй часцінцы,
Мне давялося
Дасягнуць тых меж,
Дзе ты не раздаеш
Свае гасцінцы
І болей патрабуеш,
Чым даеш.

# НА ЎЗЛОБІНАХ ДЗЯЛЯНАК БАРАВЫХ...

На ўзлобінах
Дзялянак баравых
Я думаю пра мёртвых і жывых.
Пра тое,
Што было і адшумела,
Пра тое,
Што шуміць над галавой.
Зліваюцца
Душа мая і цела,
Зліваюцца
І з небам, і з зямлёй.
У гушчары
І на блакітных плёсах
Што я лавіў,
І што цяпер злаўлю?
Усе мы змалку
Марым аб нябёсах,
Паціху урастаючы ў зямлю.
Маўклівай задуменнасцю лясоўя
Ачышчаны,—
І сталы, і малы,
Да вас,
Да вас
Вяртаюся ізноў я,
Паверце,
Без сякеры
І пілы.

## ФРАНТАВІКІ

*Герою Савецкага Саюза*
*Б. А. Булату*

Яны жывуць між нас,
Франтавікі,
Падпольшчыкі
І партызаны.
Той — без нагі,
А гэты — без рукі,
А той, як вяз,
Увесь зарубцаваны.
Перамаглі
І смерць яны, і страх.
І зайздрасці
Няма зусім да юных.
І толькі горкі смутак
Па сябрах,
Што спяць на ўзгорках,
У лагчынах,
Дзюнах.

Праз маразы,
І ліўні,
І сухмень
Гучыць іх мудры
Голас чалавечы:
«Калі сумленна
Ты пражыў свой дзень,
Сумленным, дружа,
Будзе і твой вечар...»

## НАРОД І ПЕСНІ

*С. Пракапенку*

Вякамі страты лічыла
Айчына мая, Айчына.
Як бы ні бедавала,
А песні яна спявала.

Як кажуць, сярод людзей
Без песні — няма надзей.
Народ без песні — не ўмее,
Народ без песні — нямее.

Без песень свайго народа
Нямее нават прырода.
Ты любіш народ свой і край?
Песні яго спявай!

Вякамі раны лячыла,
Айчына мая, Айчына.
Змагалася, ваявала,
А песні усё ж спявала.

# САЛЮТЫ ПАРТЫЗАНСКІХ ПЕРАМОГ

*Светлай памяці былога камісара партызанскай брыгады М. А. Цябута*

Салюты
Партызанскіх перамог,
Над светам
Вы ўрачыста не грымелі.
Ды перад вамі —
Ворагі трымцелі,
Салюты
Партызанскіх перамог.
У гушчары
Балоцістых аблог,
Надзеяй вы гаілі нашы раны.
Радзіма чула вас,
Не толькі партызаны,
Салюты
Партызанскіх перамог!
І не сплылі вы
Ў небыццё, як дым,
Да вас вялі
Усіх франтоў дарогі,
Свінцова-цяжкім
Коласам тугім
Вы леглі ў сноп
Вялікай Перамогі.

## УСЁ БЫЛО...

Усё было:
Кастры, лагчыны,
Усмешка любай у акне.
Як на світанні спеў шпачыны,
Сплыло ўсё гэта ад мяне.

Было? Было!
Сплыло? Сплыло!
Юнацтва высушаны сеці.
Пакінутае мной вясло
У хісткі човен цягнуць дзеці.

А мне шкада і не шкада
Да дзён мінулых пераправы.
Была вада, сплыла вада.
На беразе — ланцуг іржавы.

О, не! Цяпер не злучыць ён,
Цяпер не злучыць ён, вядома,
Юначых дзён глыбокі сон
З цвярозай сталасцю і стомай.

І я шапчу сабе: «Сумей
Не бедаваць.
Як кажуць людзі:
Не ўсё мінулае мілей
Таго, што здарыцца,
Што будзе!»

## МАРОЗНЫ ДЗЕНЬ

Аснежаны спакой лясны.
Нідзе — ні грукату, ні шуму.
Змяняе лёгка дума думу,
І свет спагадны і не злы.

Ні мудраца і ні прарока,
Дыміць крыніца пад гарой.
І ўсё балючае — далёка,
І ўсё гаючае — з табой.

* * *

Спакуслівы сучаснасці пірог
Кладзе нам на застолле час практычны.
І даўняе гусінае пяро
Здаў у музей наш век аўтаматычны.
Дух абнаўлення — цудадзейны дух,
У новы дзень нам паскарае рух,
Але дадам яшчэ у заключэнне:
Дух абнаўлення, але не знішчэння.

Гляджу на пералескі і лясы,
Расчулены раптоўнаю сустрэчай.
Яшчэ між нас ёсць месца для слязы,
Ёсць месца для слязы для чалавечай.
Яшчэ між нас ёсць месца для радка,
Які сумленна вывела рука.
І песня матчына. Яна між нас жыве,
Яна жыве пад выбухамі моды,
І над зямлёй няскорана плыве,
Мінаючы заторы і нягоды.

## ЧЭРВЕНЬСКІ РАНАК

Спяшаюся...
Нібыта стог вяршу,
А за спіною — бізуны маланак.

У чэрвені
Мне асвяціў душу
Святлом зялёным
Аксамітны ранак.

Святочна нада мной звінеў жаўрук.
Над гаем — зелянелі аблачыны.
І быў святочны іх павольны рух
У гэтыя святочныя хвіліны.

І я, шчаслівы светлай нематой
Травы і дрэў,
І сонечнага ззяння,
Паміж святочным небам і зямлёй
Святочна плыў у чэрвеньскае ранне,
У свет,
Дзе многа урачыстых свят,
І мітусні, і рознай блытаніны,
Шчаслівы,
Што,
Перш чым узяць назад,
Прырода дорыць гэтыя хвіліны.

## ТВОРЧАЯ СМЕЛАСЦЬ

І я аднойчы ледзь не стаў пракарокам.
І зараз мне вылазіць гэта бокам.
Я пахадзіў аднойчы ў мудрацах.
Спіна мая і зараз у рубцах.

Тады пяро я ўзяў сярод начы.
Турботамі натомленыя, спалі
Сябры мае і дробныя сычы,
І вось такія словы загучалі:

«І я аднойчы ледзь не стаў прарокам,
І зараз мне вылазіць гэта бокам,
Я пахадзіў аднойчы ў мудрацах.
Спіна мая і зараз у рубцах...»

Я напісаў.
Пасля перачытаў.
Падумаў, што задужа гэта смела.
І пацягнуўся. Спаць хацела цела.
Але я ўжо да раніцы не спаў.

Світала.
Сінім сокам плыў туман.
Ляцелі ў змроку пеўні на паркан.
На седале — вурчэлі зябка куры.
Пра творы думаў я літаратуры.

А пеўні пелі ў змроку, хто як мог,
Чамусьці мне здавалася — фальцэтам.
Не, натуральна, як ім даў сам бог.
І кожны певень быў тады паэтам,
Не думаючы пра свой лёс пры гэтым.

Я уздыхнуў.
Магутны хор які!
І асцярожна выправіў радкі:
«Ніхто не стане на зямлі прарокам,
Калі баіцца, што ўсё выйдзе бокам...»



Тлусцеючы
Ад карка і да пят,
Вы б замянілі
Слова «брат» на «блат»,
Вышэй ад чалавечага братэрства,
Узнеслі б вы паўзучае «блатэльства».
І справядлівасці
Гаючы плод
Запхнулі б вы
У свой ненажэрны рот,
Каб не народ...
Народ заўсёды бачыць,
Хто робіць,
Хто сыцее,
Хто лайдачыць.
Ёсць у народа
Неўміручы дух.
Ён нішчыць
Лізаблюдаў і хапуг,
Прыстасаванцаў,
Розных абармотаў
Дасціпным смехам,
Жартам, нібы шротам.
І, калі час
Нясе брыды прыток,
Гучыць выратавальнае:
— Браток!

Так. Сапраўды,
Жыццё — не маскарад.
І блат ёсць блат,
Але і брат ёсць брат!

## ВЯСНОВЫЯ СВІТАНКІ

Мяне світанак разбудзіў вясновы.
Зноў у прыродзе наступілі дні,
Калі зямной застыласці асновы
Нячутна падрываюць карані.

Яны ўжо ажываюць пад зямлёю,
Аж пара закурылася над ёю.
І ці не іх упартасная сіла
Мяне сягоння рана разбудзіла?

Стралялі почкі за акном у садзе,
Галіны разварушваў соку ціск.
І на паружавелым даляглядзе,
Як почка, распускаўся сонца дыск.

Паветра пахла золкаю жывіцай.
Зноў завітала светлая пара,
Калі самому хочацца раскрыцца
У прадчуванні шчасця і дабра.

## СПЯКОТА

Калі спадзе
Паўдзённая спякота,
З палёгкай уздыхне уся прырода.

Страсе
Лянотную дрымоту гай.
Зашамаціць
Тугім калоссем поле.
На поплаве, як высмяглы, ручай
Парэпаныя купіны праколе.

Лапушша залапоча убаку.
Лілеі разамлелыя запахнуць.
Гусей чародка кінецца ў раку,
Каб ад спякоты крышачку ачахнуць.

Калі спадзе
Паўдзённая спякота,
У свеце запануе мір і згода.

Перажылі яе, перажылі!
Пара цяпер
Аддыхацца, напіцца,
Памаладзіцца, і прычапурыцца,
І пакланіцца небу і зямлі.

# НЕБА І ДОЛ

І ластаўкі над хатай,
І буслы
На грушыне старой,
І луг лагодны,
І водар гэты ранішні,
Лясны,
І свет стары, стары
І першародны,—
Гавораць мне,
Што вечна ўсё наўкол,
Што прагне жыць
На свеце ўсё жывое,
Што неба
Не глыбей за гэты дол,
Адкуль жыццё ўзыходзіць
Маладое.

## ДРЭВА НА ВЫСПЕ

Жыло-было ў лесе дрэва,
Адным на пацеху, другім на зло.
Шумелі дрэвы справа і злева,
Яно паміж іх непрыкметна расло.

Цягнулася ў рост яно непрыкметна.
І дрэвы, па звычцы сваёй лясной,
Адны —ківалі яму прыветна,
Другія — штурхалі ранняй вясной.

Як стала навокал і шумна, і тлумна,—
Засумавалася нешта яму.
Калі ж табе сумна — гэта разумна
У цішыні пабыць аднаму.

І вось, як ноч на імхі прылегла,
У зябкім зіхценні світальнай зары
Скранулася дрэва і ўдалеч пабегла,
Аж грымнула рэха ў сонным бары.

Бегла яно праз хмызы і балоты,
Мінала дзялянкі, мінала калоды,
І абрывалі яго карані
Вываратні і трухлявыя пні.

Бегла, не чуючы рогату, свісту.
Віхурыўся следам туману пыл.

І вось узбегла яно на выспу,
На выспу ўзбегла з апошніх сіл.

Сок на пясок, нібы кроў, ліецца
З-пад маладой паздзіранай кары.
— Не прыжывецца!
Не прыжывецца! —
Крычалі совы у сонным бары.

І вершаліны бору спляліся
Ў гневе, што кроны ўпартыя гне:
— Вярніся, малое!
Назад вярніся!
Назад вярніся,
Чуеш ці не?

Чуеш, вярніся назад,
Пакайся,
Расці, як расло у лясной цішы!
Не вытыркайся,
Глыбей хавайся,
Не вытыркайся,
Нас не смяшы!

Дрэва на выспе чула й не чула
Енкі зласлівыя, рогат і свіст,
Бо ўпершыню на прастор зірнула,
Які не засціў чужы нават ліст.

Дыхала дрэва на поўныя грудзі.
Сонца ў блакіце вясновым плыло.
Ехалі людзі. Дзівіліся людзі:
— Глядзіце!
Дрэва на выспе ўзрасло!

— Глядзіце,
Якое на выспе дрэва! —
Крычалі дзеці
Справа і злева...

А прадстаўнік
Аховы прыроды,
Наеўшыся зранку
Тлустых аладак,
У раёнку
Заметку пісаў з асалодай
Пад назваю:
«Унікальны выпадак».

Хоць кожны сук вузлаваты сагнуўся,
На кожнай галіне — віхур сляды,—
Бачыла дрэва: да высппы цягнуўся,
Цягнуўся з бору падлесак сюды.

* * *

Без падабенства дзень,
Без падабенства
На той мінулы. Гэта новы дзень.
Пад навіссю бяды яго сустрэнь
Даверліва, нібы ў часы маленства.

Зласлівасцю пачуцці не глушы
І не прымай хлуслівых спачуванняў.
Павер у цудадзейнае вяртанне
Ад мітусні да яснасці душы.

Шчаслівым і ў няшчасці адчувай,
Пакуль над галавой шуміць лістота,
Пакуль з табою любая істота,
Пакуль з табой сябры і родны край.

Трывогамі надзелены,
Глыбей
Капай сваю жыццёвую крыніцу,
Пакуль жывец у ёй не забруіцца
Бяды тваёй, слязы тваёй чысцей.

# БАЛАДА ПРА НАРОДНУЮ ПЕСНЮ

*Г. Цітовічу*

Бабка Насця
За век свой дабра не скапіла,
Хаця працаваць змалку любіла,
Вельмі ж любіла яна працаваць,
Яшчэ любіла яна спяваць.

Калі ж яна знікла ў той далячыні,
Адкуль назад не ідуць, не ляцяць,
Адчынілі добрыя людзі скрыню,
Каб хоць нешта на памяць узяць.

Хусткі,
Настольніцы-самабранкі
Між сабой падзялілі сялянкі,
Так, як бабка ім завяшчала.
А ў самым куточку на дне ляжала —
Што б вы думалі? —
Песня ляжала.
Вядома — песня не мёд, не сала,
Ды нейкая цётка і песню забрала.

Забрала песню, прынесла дахаты.
А муж на кірмаш збіраўся. Так, так.
— На,— кажа цётка,— чорт паласаты!
Можа, купіць які дзівак...

Хто з вас не ведае дух кірмашовы?
Можна усё там прадаць і купіць,

Можна апошнія порткі праціць.
І дзядзька ў думках шэпча замовы.

Нешта прадаў ён і нешта купіў,
Дадому хутчэй павярнуў калёсы.
І раптам: «А божухна! Песню забыў!» —
Словы у цела ўпіліся, як восы.
«Назад я каня цяпер не паганю,
Лепей я сквапнай жонцы зманю...» —
Падумаў дзядзька, і стала лягчэй.

А песня туля́цца паміж людзей
Пайшла адзіноткай-сіроткай у свет,
Цяжка прыйшлося ёй, не сакрэт.

Спачатку яе прытуліў карчмар,
Падфарбаваў ёй вусны і твар,
Пусціў служанкаю між гасцей,
Народ у карчму паваліў часцей.
Дзівіўся вачам яе, гнуткаму стану.

Але прыглянулася песня пану.
Гыркнуў пан:
— На бочку тавар!
Аж спруцянеў на месцы карчмар.
— Толькі мне будзе лашчыць слых,
Выб'ю з яе я мужыцкі дух!
Ды песня зірнула так, што распух
Пан ад зляку за нейкі міг.

І знікла.
Ізноў пайшла ў свет шырокі.
Прывабная постаць.
Бясшумныя крокі.
Пайшла адзіноткай-сіроткай у свет,
Цяжка прыйшлося ёй, не сакрэт.

І вось забрыла яна у ляшчыну,
Дзе міла̀ваў хлопец дзяўчыну.

Забралі яны тую песню з сабою,
Назваўшы яе сваёю сястрою.

І ўпершыню яна акрыяла
З часу таго, як бабкі не стала.
І ўпершыню яна так загучэла,
Што з ёй зямля ўся плакала й пела.
Ды хлопец дзяўчыну так пакахаў,
Што не заўважыў,
 як песню украў
Злодзей з прыблуднага балагану.
Я дужа лаяць яго не стану,
Хоць ён вялікі быў прайдзісвет.
Але на свеце і прайдзісвету
Трэба ж мець сабе на абед
Хаця б які крупнік, калі не катлету.

Спачатку ён песню разбіў на куплеты.
(І зараз так робяць, але не паэты.)
З куплетаў пачаў выдзіраць радкі
І прадаваць махлярам з-пад рукі.
Радкі ж, якім не знайшоў ён збыту,
На сметнік выкінуў іх адкрыта.

Чалавек ішоў.
І радок знайшоў.
Радок знайшоў.
А за ім — другі.
І ад гэтых радкоў,
І ад гэтых слоў
У вачах яго
Паплылі кругі.

Як за крокам крок — за радком радок,
Ён ачысціў песню ад бруду.
Нібы скарб які, як любві вянок,
Перадаў працоўнаму люду.

## ЖАНЧЫНЫ

Жанчыны ўмеюць чакаць,
Жанчыны ўмеюць кахаць,
Многае ўмеюць жанчыны.
Пяшчотны іх шчэбет птушыны,
Што чуць пашчасціла мне,
І вас няхай не міне.

Не трэба жанчыну гнявіць,
Жанчыну трэба любіць,
Любіць аддана і смела,
Каб музыка ў свеце гучэла,
Што ачышчае наш дух,
Якая толькі на двух.

Перад жанчынай, як сыч,
Не будзь. Не стагні і не хныч,
Калі ты сапраўдны мужчына.
Як нават жыццё запярчыла,—
Ёй не заменяць казкі
Тваёй пяшчоты і ласкі.

Жаночых надзей не руйнуй.
Жанчыну раўнуй не раўнуй,—
Сама ва ўсім разбярэцца.
Глядзі, як шчасліва смяецца
Жанчына. І здзіўлены свет
Зайздросна глядзіць ёй услед.

Прайшла, апякла і растала,
І сумна навокал стала,
Сіроча ў свеце зусім.
З жанчынамі свет не старэе,
Ён маладзее, дабрэе,
І, ўрэшце, нас дорыць ім.

І мы іх любім і любім,
За што — пра гэта не трубім,
Між іншым, навошта трубіць?
Жанчыну трэба любіць,
Любіць аддана і смела,
Каб музыка ў свеце гучэла,
Што ачышчае наш дух,
Якая толькі на двух!

## СЛЯЗА

І вось дзяўчына апранаецца,
Яшчэ здзіўляецца, ўсміхаецца.
У змроку звабны сілуэт
Плыве ціхутка і гайдаецца,
І ў ёй паволі прачынаецца
Дагэтуль неспазнаны свет.
І вось на фоне неба зорнага
Яна у прадчуванні дня,
Як птушаня, безабаронная,
Дрыготкая, як птушаня.
Уся спатолена-лагодная.
І ныюць грудзі, і цвітуць.
Жыве ў ёй прага першародная
Ў акно аголенай зірнуць.
Світальна-сонна неба зорыцца.
Сляза, відаць, таму цячэ,
Што ўжо такое не паўторыцца,
Хоць нешта здарыцца яшчэ.

* * *

Як пушча адвечная гэта,
Хай будзе наша каханне
Напоўнена спевамі птушак
І гоманам дрэў.
Абмыта ранішнімі росамі
І сонцам паўдзённым сагрэта.
Як пушча адвечная гэта,
Хай будзе наша каханне.

Хай стане яно прытулкам
Для тых, хто шукае прытулку,
Для ўсіх, хто шукае ратунку
Ад гора, нядолі, ці крыўды.

Чуеце, людзі і дрэвы.
Звяры і птушкі,
Кветкі і травы,
Чуеш і ты, мая любая,
Праз тысячы кіламетраў:
Як пушча адвечная гэта,
Хай будзе наша каханне!

Я ведаю, што смяротны.
Мая адцвіце заранка.
Ударыць пярун грымотны,—
Мяне абаўе маланка.

Але і на краі свету
Крыкну на развітанне:
Як пушча адвечная гэта,
Хай будзе наша каханне!

# ЗЯЗЮЛЯ

Свет не такі мядовы
Стаў, калі мы пачулі
У спеўным бары вясновым
Самотны голас зязюлі.

Каго ж яна так гукала
Пасля зімовай разлукі?
За што ёй такая кара,
За што ёй такія мукі?

З кім падзяліцца горам,—
Яна і сама не скажа.

І стала нам раптам сорам
За светлае шчасце наша.

Ліст дрыготкі кляновы,
Позірк твой палахлівы...
Свет не такі мядовы,
Свет не такі шчаслівы...



Мне шчэбет
Палахлівых пальцаў сніцца.
Чароўнага цяпла такой рукі
Заўсёды, як гаючую крыніцу,
Шукалі ўладары і жабракі.

Не паланіў
І не маліўся босым,
Каб толькі дакрануцца хоць бы раз.
Ты мне самім наканавана лёсам,
Што хоча разлучыць, злучыўшы нас.

Шчаслівы, і прыгнечаны, і скуты,
Гляджу ў вачэй сплываючую сінь.

Навошта забіраць з сабой пакуты?
Хоць іх на развітанне мне пакінь.



Не палохайце
Мяне бядою.
Я ўжо быў
І ў шчасці, і ў бядзе.
Пройдзе маладосць — і адцвіце.
Адбуяе лета залатое.

На шляху жыццёвым,
Непазбежным,
Я хачу — о, лёс мой,
Памажы!
Толькі б вам
Не паказацца смешным
На сваім апошнім рубяжы.

## САЛАЎІНЫ ГАЙ

Нас прывялі сюды шляхі,
Дзе гай злучае салаўіны
Беларускія лугі
З палямі Украіны.

Твая рука — мая рука.
Лагодна зоры Сож гайдае.
Сустрэла ты палешука
У салаўіным гэтым гаі.

Ці гэта я цябе сустрэў
Пад звонкі пошчак салаўіны
На сцяжынцы паміж дрэў
З Беларусі да Украіны.

Няхай спявае звонка гай.
Я гаю — доўгіх год жадаю.
Мацней руку маю трымай,
Як я тваю цяпер трымаю.

* * *

Спазнала і прылівы, і адлівы
Каханне, як вятрыстая скала.
Шчаслівы быў і быў я нешчаслівы,
Што ты са мной была і не была.

Мне сівізною апаліла скроні,
Мне люты сівер выстудзіў душу.
Здаецца мне, што падаю ў прадонне,
Але ў цябе ратунку не прашу.

Навошта мне ратунак, як паслуга,
Навошта без любві ратунак той?
Жыві, мая надзея-весялуха,
Глыбока ў безнадзейнасці маёй.

Не трэба мне ні літасці, ні ласкі.
І мяне ты шкадаваць пакінь.
І ад шчаслівай гінулі развязкі,
І гора узнімае да вяршынь.



Зоры, агні.
Позірк дзявочы.
Доўгія дні.
Кароткія ночы.

Вёслаў узмах.
Даль палявая.
Слодыч і страх.
Ноч, як нямая.

Шэпт і уздых.
Бераг гарачы.
Вецер аціх.
Кнігаўка плача.

## ШЛЮБНЫЯ НОЧЫ

Асенняй зоркі горкі след,
Асенняй зоркі след апошні.
Пустыя сцішаныя пожні.
Пладамі ацяжэлы свет.

Густую ядранасць наўкол
Гайдае выспелая ціша.
Ліст у паветры нешта піша
І моўчкі падае на дол.

У жоўтым, месячным святле
Вастрэй журлівасць адзіноты.
Ні ля ракі і ні ў жытле
Ні пець, ні спаць няма ахвоты.

Начамі спаць такімі — грэх,
Сон — не заўсёды асалода.
Стварыла іх сама прырода
Для шлюбных ласак і уцех.

Дарэмна пільныя дзяды
У буданах сваіх начуюць.
Трашчаць сады.
Гудуць сваты.
Вяселлі новыя вяшчуюць.



Навокал — азёрная сінь.
А вочы — з чорных глыбінь,
Вечных глыбінь, кажу я.
Бездань у іх віруе.
Надзейней трывалы жвір,
Ды ўпаў я ў іх, як у вір.
Мне з іх, паверце,
Не вынырнуць аж да смерці.

## РАЗВІТАННЕ

1

Нават ценю свайго
Ты мне не пакінула.
На памяць ад мяне не ўзяла нічога.
Пайшла, і ўсё.
Нібы загінула.
Слядоў не мае ў небе дарога.

Стаю, як жабрак,
Над паласой узлётнаю.
Махаю ўслед рукамі бяскрыла.
Разняволеную і самотную,
Няўжо і неба цябе палюбіла?

2

Калі пакідае каханая,
Цябе назаўжды пакідае,—
Свеціць зоркай туманнаю,
Далёкая і святая.
Калі пакідае каханая,
Навекі табе жаданая,—
Не пакажыся чэзлым,
Зацюканым і балесным,
Не апускайся на дно,
Хоць ёй ужо — ўсё адно.
Каханне маё, каханне,
Ты — як самазгаранне.
Гарэць мне доўга ці мала?
Дзякуй, што ты кахала!

## АСЕННЯЯ МУЗЫКА ТРАЎ

Асенняя музыка траў.
Шчымліва-журботны матыў,—
Калі ён мяне напаткаў,
Не памятаю, забыў.

Мы прагнем усе перамен.
Мы цягнемся да навізны.
З табой нам за песні вясны,—
Роздум асенні ўзамен.

Без хваляванняў і спраў
Нават і дня не пражыць.
Асенняя музыка траў
Штогод нам журботней гучыць.

Любая, што ж гэта ты
Мне прашаптала здалёк?
З дрэў ападаюць лісты
На верасовы пылок,

На ўсё, што ў жыцці я спазнаў,
На ўсё, што табе я нясу,
На ціхую музыку траў,
На светла-шчымлівы наш сум.



Пераезды.
Пералёты.
Мітуслівыя турботы.
Не чакаю нейкіх дзіў.
Не хачу нябеснай манкі.
Я, сябры, вас палюбіў
Ад Алтая да Палангі.
Я дагэтуль не забыў
У калейдаскопным верце,
Дзе я быў і з кім я піў.
Веру вам, і вы мне верце.
Шчыраваць аж да відна
Намі знойдзецца прычына.
І стаяла ты адна,
Мая любая жанчына.
І стаяла ты ў баку
Ад шляхоў імклівых часу.
Што мне трэба на вяку —
Зразумеў я не адразу.
А калі я зразумеў,
Дык адразу пасівеў.
Навакол буяе май.
Жаўрукі ў нябеснай высі.
Хочаш — блуднага прымай,
Хочаш — моўчкі адвярніся.

* * *

Ад горкай аднастайнасці ў душы
Спадманныя ўзнікаюць міражы.

І гулка сэрца ёкае тады,
І зноўку ты шчаслівы, малады,
І свет, як першы снег, прымаеш ты
Без вулічнага бруду і слаты.

Ад горкай аднастайнасці ў душы
Гаючыя ўзнікаюць міражы.

І сэрца думка цёплая кране,
Што ты кахаеш, як раней, мяне,
Што час цябе яшчэ не астудзіў,
Што я твайго яшчэ каханняварты,
Што я цябе любіў — не разлюбіў,
Хаваючы любоў сваю за жарты.

Але як цяжка робіцца ў душы,
Калі ў ёй толькі...
Толькі міражы.

## БАЛТЫЙСКІ ЗАЗІМАК

*А. Савіцкаму*

У небе, сцюжаю зашклёным,
Марскі адбіўся неспакой.
І чайкі, збітыя цыклонам,
Як снег, ляцелі над вадой.

Круціла мора ў плямах шэрых
Свае грымотныя валы.
Тырсою білі пырскі ў бераг
З-пад іх, як быццам з-пад пілы.

Ад гэтай гнеўнасці стыхіі
Дзеля спакою і красы
Ужо снягоў пласты тугія
Палі чакалі і лясы.

Так сэрца, сціснутае болем,
У ночы чорныя і дні
Чакае ласкі і спакою,
І цішыні, і чысціні.

* * *

Не збегчы ад асенняй пазалоты,
Туманных ранкаў і сляпой імжы,
І не адчуць таемнай асалоды,
Ад воч тваіх схаваўшыся ў цішы.

Не тое штосьці ў нас з табой, не тое...
А думаў я: каханне — залатое.
Не будзем жа ні плакаць, ні ўздыхаць,
Хай у бары сухія дрэвы плачуць.
Калі нічога ўжо не перайначыць,—
Мінулае навошта руйнаваць?

Навошта ўсё адразу — пад адхон?
Скажы, навошта верасню завея?
Пад прысакам агорклых нашых дзён,
Як вугалёк, яшчэ надзея тлее.

А можа, недарэмная яна,
Калі ў бары сухія дрэвы плачуць,
І свет задумны бачыць і не бачыць,
У чым твая і ў чым мая віна?

## НАЧНОЕ КУПАННЕ

Каханая,
Ці помніш ты, скажы,
Як мы з табой купаліся ў Сажы?

Сярод начы з табою мы купаліся,
Гайдаліся ад бакенаў агні.
І ўзрушаныя зоры цалаваліся
Пад намі, у сцюдзёнай глыбіні.

Каханая,
Ці помніш ты, скажы,
Як ноччу мы купаліся ў Сажы?

Выслізгвала ты з рук маіх, як рыба,
Па водмелі кідалася наўскач.
А недзе ціха ў лугавіне ўсхліпваў,
Самотна ўсхліпваў адзінотны драч.

І нам было шчасліва і самотна.
Што быць магло — мінула незваротна.
Нам час, нібы раку, не пераплыць,
Нам не вярнуцца ў тыя дні былыя,—
Ад успамінаў толькі сэрца ные,—
А новым дням цяпер нас не злучыць.
Губляючы зямную раўнавагу,
Ты бегла ад вады,

Як ад бяды.
І ў немачы ўзлятаючы,
З размаху
Змывалі хвалі нашыя сляды.



Мы ніколі не будзем разам,
Ніколі,
Як праз дарогу — таполі,
Як дзве зоркі на небасхіле,
Мы ніколі не будзем разам,
Марыля.

Гады пралятаюць,
Як звонкія хвілі,
Пляткараць пра нас:
Кахалі, любілі...
Навошта пярэчыць?
З табою мы знаем:
І зараз мы любім,
І зараз кахаем.

Мы любім той вечар, і бераг, і час,
Якія аднойчы прывецілі нас.

Мы ніколі не будзем разам,
Ніколі,
Ніколі і ў лесе, ніколі і ў полі,
Што з таго, што наша каханне
Не ведае расчаравання?

Мы ніколі не будзем разам,
Ніколі...

* * *

Сустрэлася,
Зачаравала,
Вястунка і дабра, і зла.
Аджартавала,
Адспявала,
І вось — са мной як не была.

І непрытульна,
І маркотна
Мне каля сівернай вады.
Я ведаю — што незваротна.
Я ведаю — што назаўжды.

Няма ні вернасці,
Ні здрады
У гэтай блізкасці зямной,
Калі душы прыносяць страты
Расчараванне і спакой.

* * *

Рытмічны грукат электрычкі.
Агні ў асеннім тумане.
Чаму ж, чаму не маеш звычкі
Праводзіць на вакзал мяне?

І я ў натоўпе мітуслівым,
Расчараваным і шчаслівым,
Як быццам незаконны сын,
Зусім адзін, зусім адзін.

Я пакуру, паназіраю.
Тут побач — шчырасць і спадман.
І развітальна памахаю
Табе праз ранішні туман.

І думка ціха карагодзіць,
І ёй супынку не ідаць:
Лягчэй заўсёды нас праводзіць,
Цяжэй заўсёды нас кахаць.



На беразе марскім у адзіноце,
Асвежаны балтыйскім зябкім брызам,
Я з морам, небам і зямлёй у згодзе.

Упершыню я сёння не з табою.
Жадаю я тваім далёкім рысам,
Вачам і сэрцу гэткага ж спакою.

Вось кволы сілуэт рыбацкай лодкі
Ледзь вылузнуўся каля небасхіла,
А ўжо навокал — юшкі пах салодкі.

Між хмар аблюжных не прабіцца зорам.
Вячэрні морак мора растварыла,
І неба, і зямля зліліся з морам.

Зліліся гукі, пахі і адценні.
Свет зацягнуў усё халоднай раскай,
Пазбавіў фарбаў, гукаў і надзеі

Убачыць мора, і зямлю, і неба,
Асмужаныя вечаровай ласкай.
І вось адзін гляджу удалеч слепа.

Напэўна, не знайсці нідзе спакою,
Пакуль не буду поруч я з табою.

* * *

*Я. Уткіну*

Ёсць у жыцці
Той блаславёны час,
Калі яно ізноў вяртае нас
З далёкай далечы да родных сцен
І да будзённых клопатаў і змен.

У гэты час
Свет бачыцца ярчэй,
А на душы — і стома, і палёгка.
І не бяда, калі навісне дрогка
Сляза. І ціха скоціцца з вачэй.

Спадзе паволі
Доўгі даўкі сум,
Падступіць хваля радасці паволі.
І ты цяпер для новых спраў і дум,
Нібыта незасеянае поле.

З дарогі
Акрыяеш, адпачнеш,
Напоўнены і цішынёй, і гулам.
І адчуваеш, што яшчэ жывеш
У тым у незваротным,
У мінулым.

## НА ЗРЭЗЕ ДЗЁН МАІХ...

На зрэзе дзён маіх,
Як быццам на камлі,
Растуць трывогі часу і зямлі.
Вось стрыжань.
Увесь боль ваенных дзён
Дагэтуль у сабе хавае ён.
Зірніце:
Кольцы шчыльныя ўпрытык.
То голад да касцей маіх пранік
У пасляваенныя гады,
Пакінуўшы на мне свае сляды.
Вы можаце па кольцах прачытаць,
Якія ува мне грымоты спяць,
Якія думы сэрца скаланаюць,
Якія мары у душы лунаюць.
Мяне жыццё і гнула,
І хістала,
На зрэзе дзён
Адбітак адкладала.
І кольцы, сум і радасць несучы,
Сціскалі сэрца,
Нібы абручы.
На лёс не наракаючы ніколі,
Я сярод вас,
Нібыта ў родным полі.
Усё, што узвышае вас і гне,

Усё на сэрца асядае мне.
На зрэзе дзён маіх,
Як быццам на камлі,
Растуць трывогі часу і зямлі.

* * *

*Я. Османісу*

Пад шорхат ціхіх снегападаў
Адчуў глыбока я ў цішы
Спакой латышскіх даляглядаў
І вашы душы, латышы.

Хай цёплы водсвет вашай мовы
Світальна льецца спакваля
На ўсе палеткі і дубровы,
На ўсё, што нам нясе зямля.

Снягоў задумлівае веча.
Іду сцяжынаю крутой,
І слова роднае трапеча,
Мой узвышаючы настрой.

І хораша яму і вольна
Гучаць на беразе марскім
І самабытна і супольна
З латышскім словам трапяткім.

## ЯСЕНЬ

Усё бывае на вяку.
І мне прыгадваецца ясень.
Ён — на балотным астраўку,
Але — не як забыты вязень.

Да ўзболатку — алешнік мкне.
Лазняк — і той на востраў хоча.
Бо ясень і ў глыбокім сне
Ім нешта светлае лапоча.

Калі ж хмызы равуць наўзрыд,
Калі завеі хвошчуць ясень,—
Вяршыня снежная ў блакіт
Нырае неспайманым язем.

Не наракае ён на лёс.
Галін не ўскідвае ў маленні.
Тут нарадзіўся ён,
                                        узрос,
Мацуючы зямлю карэннем.

І ў цёплай ранішняй смузе
Відаць усім з-за паварота:
Як бусел на адной назе,
Стаіць ён пасярод балота.

## СПОВЕДЗЬ СТАРАЖЫТНАГА МУДРАЦА

Я пазнаваў жыцця таемныя законы,
Але ілжэвучэнні, забабоны
Хавалі, як дрымучыя лясы,
Ісціны і праўды галасы.
Гнус невуцтва сляпіў народ і джаліў.
І на мяне глядзелі людзі з жалем.
Калі ж я ў цемры ўзняў ліхтар навукі,
Яны без жалю мне адсеклі рукі.
Няўдзячныя!
Што возьмеш з іх? Бог з імі!
Усё было ўжо ў атлусцелым Рыме!
І нават вучняў, што мяне любілі,
Шалёныя фанатыкі забілі.
Хто ж я такі?
Мудрэц ці носьбіт зла?
І ці ж не мною ісціна адкрыта:
Жыць нельга,
Толькі есці каб з карыта.
Спякотная над Рымам ноч плыла.
І голас плыў, мінаючы кардоны,
Над светам, дзе ўладарылі Нероны.
Не лютасць, а любоў
І боль гучалі ў ім, і даўняя надзея,
Што свет, у рэшце рэшт, паразумнее,
Што дурні ў ім не стануць мудрацамі,
Не вынесуць яму крывавы свой прысуд,
Што слова мудрае заўсёды паміж намі
Гаючым зеллем будзе ад пакут.

## ВЯСНОВЫЯ ХАЛАДЫ

Быў першацвет.
І замаразак быў.
І вось няма нічога.
Нібы ўсявышні нас любіў,
А мы ўгнявілі бога.
Не плач, каханая, не плач.
Ты ж бачыш: сад не плача.
Цяпер ён голы, як дзяркач,
Здранцвелы ўвесь, няйначай.
Быў першацвет.
А холад быў які!
Ды забуяла завязь.
Яе вось толькі б чарвякі
Не падтачылі зараз...



А вось і бульба зацвіла.
Густы струменіць
Пах бульбяны
Аж на зарэчныя паляны
З памаладзелага
Сяла.

У гурце
Дзівяцца мужчыны,
Што палагоднелі жанчыны.
І ў хатах
Стала больш цяпла...

Што значыць —
Бульба зацвіла.

## ДАЖДЖЛІВАЯ НОЧ

Ноч дажджлівая. Ноч.
Вулічныя ліхтары дымяцца.
Мокрыя афішы чытае вецер
І незадаволена рве на шматкі іх.
Сумна. Бязлюдна. Мокра.
Дзядзька, абняўшы ліпу,
На апусцелым прыпынку
Нешта на вуха ёй шэпча.
Ноч дажджлівая. Ноч.
Гэта не ноч, а хмара
У слязах да зямлі прыпала,
Як блудная дачка да маці хворай.
А вось і хуткая дапамога
Вынырнула на імгненне.
І дождж заштрыхаваў яе,
Нібы не здарылася нічога.
Ноч дажджлівая. Ноч.

* * *

Каля дарогі шапаціць таполя.
На выспе — купка маладых бяроз.
У кожнага свая зямная доля,
У кожнага свой асабісты лёс.

Не ўсім аднолькава
І сонца свеціць,
Ды ўсіх, не супыняючы хады,
Прырода падсілкуе і прывеціць,
І забярэ з сабою назаўжды.

Куды?
Туды, дзе нетры і аблокі,
Дзе дол глыбокі,
Дзе віруюць сокі,
І дзе бяруць пачатак з небыцця
Вытокі існавання і жыцця.

І як ні шанаваць
Прыроды годнасць,
Калі бясконца
Ёй у вечнасць плыць,
Каб праз смяротнасць
Зведаць несмяротнасць,
І ў несмяротнасці —
Смяротнай быць.

## КАЦЯРЫНА

Песня-жарт

За палямі, за лясамі,
За грымотнымі шляхамі,
Дзе цвіце ў гаях каліна,
Расцвітала Кацярына.

Вочы ў гэтай чараўніцы,
Як палескія крыніцы,
Косы ў Каці-Кацярыны,
Як лясныя ручаіны.

Каця, Каця,
Каця-Кацярына!
Ад зары і да зары —
Каця, Каця,
Каця-Кацярына! —
Стогнуць хлопцы, як бабры.

Калі ў хату ўвойдзе Каця,
Стане светла ў гэтай хаце.
Калі з хаты выйдзе Каця,
Стане цёмна ў гэтай хаце.

Калі Каця йдзе дадому,
Дык, забыўшыся на стому,
Хлопцы робяць кругаля,
Каб убачыць, хоць здаля.

Каця, Каця,
Каця-Кацярына!
Ад зары і да зары —
Каця, Каця,
Каця-Кацярына! —
Стогнуць хлопцы, як бабры.

Хлопцы, Кацю не чапайце,
Хлопцы, крыху пачакайце.
Хто з вас ходзіць недарма —
Каця скажа вам сама.

* * *

*Брату Леаніду*

Дым з коміна над роднай хатай,
Стажок маленькі за хлявом.
Стаю ў двары, як вінаваты,
Зайсці баюся ў родны дом.

Прыйшоў сюды не на спатканне,
Не жабраваць прыйшоў сюды.
І не шукаць у хваляванні
Маленства даўняга сляды.

Не за адным глытком паветра,
Што вее з родных берагоў,
Ляцеў і ехаў я праз нетры,
І пехатой сюды ішоў.

І не крыўдую я на долю,
Што з роднай хатай развяла.
Нідзе на свеце і ніколі
Яна чужой мне не была.

І ўсё ж зазначу я нясмела,
Употай нават ад сябе,
Што наша хата пастарэла
У нейкай сцішанай журбе.

Бы нешта ёй адной вядома,
Чаго і нам не зразумець.
Ну, вось і ўсё. Ізноў я дома,
Каб зноў удалеч паляцець.

## ПАЖАР НА СТАЙНІ

Знясілены і распацелы,
Уздрыгваў жэраб пад сцяной.
Як грыва, полымя ляцела
Над выгінастаю спіной.
І конь збіваў жахліва-люта
І дым, і полымя наўкруг.
Пяньковае сатлела б пута,
Але на шыі быў ланцуг.
Сарваць яго ўжо немагчыма.
Пячэ раз'юшаны пажар...
Асела стайня над лагчынай
Пачварай дымнаю з-за хмар.
Маланкі ўспыхвалі пагрозна
У launch пературшчанай цішы.
І беглі людзі вельмі позна,
Якім аддана конь служыў.
І ў безвыходнасці пякучай
Так заіржаў ён на дыбках,
Што лісце ўспыхнула
Над кручай
На знерухомелых дубах.

## У СВЕЦЕ ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ

Гляджу перадачу «У свеце жывёл»,
На зайца — зеўрыцца кобра.
Зводдаль вожык мацае дол,
Гэта ўжо — добра.

У свеце жывёльным — адбору закон,
Слабы — мацнейшых ахвяра.
Вісіць ён над светам, нібы праклён,
Вісіць, як смяротная кара.

А свет? Няўжо да пакут глухі,
Няўжо сваіх страт не лічыць?
Адным даруе злачынствы, грахі,
Другіх — сіроціць і нішчыць.

Кобра паўзе. Заяц сядзіць.
Вожык чамусьці да іх не бяжыць.
Свае ў яго справы, няйначай.
Дачушка ад страху плача.

Не плач, Алеся, жывёльны свет
Табе не раскрые жыцця сакрэт.
Яшчэ чакае з табой сустрэчы
Свет найскладанейшы, чалавечы.

Параіў бы я для маленькіх дзяцей
Перадачу «У свеце добрых людзей»,

Дзе б не знішчалі, не забівалі,
Дзе б людзі любілі,
Дзе б людзі кахалі
І шанавалі адзін аднаго
Мацней ад святых,
Вышэй ад багоў.

Параіў бы я для маленькіх дзяцей
Перадачу «У свеце добрых людзей»,
Не для таго, каб ружовасці сноў
Змалку ім навяваць.
А для таго, каб сумленне, любоў
У сэрцах іх засяваць,
Свет не спрашчаць
І не ўскладняць,—
Іх ад жорсткасці аберагаць.

* * *

*І. Мележу*

Як птушкам — волі і бязмежнасці,
Вы нам жадалі незалежнасці.
Без той ганебнай прагавітасці
Узняцца ў марнай барацьбе,
Каб іншыя прасілі
                    літасці,
Як ва ўсявышняга,
                    ў цябе.

Без той дрыготкай асцярожнасці
Звычайны не парушыць рух,
Каб дацягнуцца да заможнасці,
Сумлення вынішчыўшы дух.

Як птушкам — волі і бязмежнасці,
Вы нам жадалі незалежнасці.

Той чалавечай незалежнасці,
Што выспяляе без паспешнасці
Сузор'і дум, любоў і гнеў,
Ніхто ў жыцці каб не драбнеў,
Край бараніў свой і народ
Ад чорнай ганьбы і нягод.

Той чалавечай незалежнасці,
Што нас вядзе да непазбежнасці

Забыць, хваробы, крыўды, стому,
Там, дзе прэцца нахрапам зло,
Дапамагчы ўсяму жывому,
Калі нават падбіта крыло.

## СЯБРОЎСКАЯ РАЗМОВА

— Дружбак асенніх дзён, агорклае імжы,
Што ў гэтых днях знаходзіш ты, скажы?
Навокал свет асеплены слатою,
Ты ж восень называеш залатою...
Ну, добра, папракаць цябе не буду,
Не змыць табе пары асенняй бруду.

Вясну табе я раю славіць, лета,
Якая тут раскоша для паэта!
Якія фарбы, гукі, чысціня,
Вячэрнія зарніцы, навальніцы!
І ты між іх натхненне, як каня,
Гані у паэтычнай калясніцы.

Хай у здзіўленні аж раскрые рот
Чытач, які ужо да цудаў звыклы.
Хто з нас не любіць выспелены плод?
А восені глыбокай дух паніклы —
Ён не ўзнімае нас і не вядзе,
У ім штосьці ёсць сугучнае бядзе.

— Так. Я шукаю ісціну не там,
Дзе прыгажосць расце, цвіце, буяе
І сутнасцю — сама сябе ўслаўляе.
А там, дзе свет, аддадзены вятрам,
Нібы лісток на зябкае галіне,
Пацiху адмірае і не гіне.

Ад гэтай таямнічасці жывой
Душа мая трапеча і настрой.
Здаецца, нібы выспеласць прыроды,
Хаваючы вытокі ў глыбіні,
Шукае з светам еднасці і згоды
І, не знайшоўшы, плача дзень пры дні.

Нямеюць у журбе бары і пушчы,
І я тады,— наўздзіў сабе,— відушчы,
Глыбока адчуваю, добра чую
Цябе, мой сябра, неба і раку.
Смяюся ў захапленні і гарую.
А што яшчэ патрэбна дзіваку?

* * *

*В. Жураўлёву*

Імчымся мы усё хутчэй,
Аж іскры сыплюцца з вачэй.
Ідзе, гудзе вялікі рух,
Захоплівае дых і дух.

І ў спрэчках мы не знаем меры,
І не змаўкае тэлефон,
І нестае у нас паперы
На цыркулярны марафон.

І недзе там, на грэбні руху,
Адкуль відаць жыцця агні,
Ты, стомлены, адчуеш скруху
Па сонцу, небу, цішыні.

Па дрэвах цёплых і ласкавых,
Па ўзлеску, дзе ручай звініць.
І ўжо тады ў ніякіх справах
Журбу і скруху не ўтапіць.

І ты стаіш расхваляваны,
Адчуўшы пах зямлі лясной,
Самім сабой абрабаваны
І ўсцешаны самім сабой.

## ІРАНІЧНЫ ВЕРШ

Сабе куплю боты, касцюм, капялюш,
Шкада, што не ў модзе галёшы.
І скажуць услед мне:
— Такога не руш!
Так, так — чалавек ён харошы...

І ў час, калі злыдням плюгавым карціць,
Каго б аглушыць ананімкай,
Я буду з сябрамі надзейнымі піць,
Піць чай ад прастуды з малінкай.

Не абмінаюць мае берагі
Людскога даверу крынічкі.
Хай лопнуць ад зайздрасці і тугі
Аматары бруднай клубнічкі.

Ды толькі не лопнуць.
Анёлы. Сланы.
А кроў скамянее у жылах,—
Між раем і пеклам праскочаць яны
На ананімных крылах.

І прама да бога.
Да ног яго — бух!
Рвучы спляшывелыя косы.
— Што можа рабіць ананімны ваш дух?
— Пісаць ананімкі-пагрозы!..

— І ўсё? — запытае маркотна ўладар.
— І вы чалавечае веры?
Дык вось што:
На небе на гэты тавар
Чарніла няма і паперы.

Хапае сваіх тут, што плёткі плятуць,
Грызуцца за сыты кус.
Назад вас, мярзотнікі, трэба вярнуць,
Але наматайце на вус:

Зайздрасць вас будзе заўсёды пячы,
Заўсёды пячы і ўдзень, і ўначы,
Вам нікуды ад яе не ўцячы,
Вось вам дробязі — на харчы...

Пырхнуць грэшнікі, хто куды,
Ногі яго пасмактаўшы ўзасос.
І вышмаргне здзіўлены бог з-пад пяты
На стражу пакінуты імі данос.



У жнівеньскія травы упадзеш,
Прагрэтыя да самай карнявіны,
Адчуеш, што зямля не мае меж,
Плыве ў сусвет, нібыта аблачыны.

У звонкай і духмянай сіняве
Скачок пад вухам лена застракоча.
І думка ціха, ціха паплыве
Туды, куды яна сама захоча.

А пад спіною — дыхае зямля,
Лапаткі працінае прахалода.
І пачуццё бясконцага палёта
Павольна зноў вяртаецца здаля.

Міжволі вочы мружацца ў цяньку.
А ў ложку сплю я толькі на баку,
Бо не заснуць інакш да рання мне.
Яшчэ я наляжуся на спіне.

* * *

Прачнуўся
І не разумею:
На досвітку
Ці на змярканні?
За вокнамі неба сівее,
Пад вокнамі ходзіць маўчанне.
Свету кантрасты, адценні
Шэрасць наўкол праглынула.
І я для яе — мішэнню
Між будучым і мінулым.
Ды вось, абстрыгаючы скруху,
Неадчужальна і ціха
Гадзіннік зацікаў ля вуха,
Рытмічна гадзіннік зацікаў.
Пульсуюць, прачнуўшыся, думы,
І свет мяне вабіць прынадна.
Вось-вось праз шкарлупіну суму
Праклюнецца ціхая радасць...

## МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Калі паміраюць паэты,
Што ні перад кім не гнуцца,—
У чалавецтва прасветы
На ўсе вякі застаюцца.

І ні пры чым тут гены,
Што правяць жыццём і светам,
Паэтам няма замены,
Няма замены паэтам!

Калі паміраюць паэты,
Калі яны паміраюць,—
Няпраўда, што ўсе сакрэты
Нам яны пакідаюць.

Яны забіраюць з сабою
Талент свой адмысловы,
Кінуўшы ў мора людское
Свае несмяротныя словы.

Калі паміраюць паэты,
Што ні перад кім не гнуцца,—
У чалавецтва прасветы
На ўсе вякі застаюцца.

## НОВАЯ ХАТА

У вёсцы будуецца новая хата,
Значыць, рыхтуецца новае свята.

Збяруцца теслі, суседзі, радня,
Агледзяць усё ад сянец да кута,
Зацягнуцца ўлазіны аж да дня,
Прабягуць, як адна мінута.

Назаўтра плёткі ўзляцяць, як арэлі:
Што там пілі і што там елі,
Хто перабраў, а хто недабраў,
Толькі лыжкаю працаваў.

У вёсцы будуецца новая хата,
Значыць, рыхтуецца новае свята.

А пакуль што сякеры сакочуць:
тук-тук!
Над вёскай плыве меладычны гук.
І лёгка робіцца ўсім на душы,
І радасна за навасельца.

— Ты у раёнку пра нас напішы! —
Жартуюць з вясковага «спеца».
Маўляў, так і так, і вось гэтак
Для Параскі, Івана і іхніх дзетак
Будуецца ў вёсцы сапраўдны церам,
Ды не хлусі, мы усё праверым...

Курацъ мужчыны пад новай сцяной,
Пахне жывіцай, свежай смалой,
Глядзяць,— у вачах і зайздрасць, і ласка,—
Як галубіць употай Івана Параска,
Як расце ўвачавідкі новая хата,
Як набліжаецца новае свята.

## ВЫПУСКНІКАМ ШАРПІЛАЎСКАЙ ШКОЛЫ

Давайце будзем дружыць,
Шчыра скажу адразу.
Сумленна будзем служыць
Праўдзе, народу, часу.

Давайце будзем дружыць
Без ганарлівасці хвацкай.
І помніць пра тых, хто ляжыць
Ля школы ў магіле брацкай.

Давайце будзем дружыць
І ва ўсіх пакаленнях
Заўсёды будзем цаніць
Сумленне, сябры, сумленне!

## ДУДАРЫКІ

Ой, ляцелі,
Ой, ляцелі,
Ой, ляцелі камары.
Дударыкі,
Дударыкі,
Дударыкі-дудары.

Ой, сустрэлі,
Ой, сустрэлі
Майго любага ў бары.
Дударыкі,
Дударыкі,
Дударыкі-дудары.

Я чакала,
Я спявала,
Я спявала пра любоў.
Няўжо, любы,
Няўжо, любы,
Ты баішся камароў?

Нізка ў полі
Травы гнуцца,
І да самай да зары
Навакол мяне віюцца
Навакол мяне віюцца,
Жаніхі, як камары.

Жанішкоў я адганяю,
З неба зорак не лаўлю.
Аднаго цябе кахаю,
Аднаго цябе кахаю,
Аднаго цябе люблю.

Адляцелі,
Адляцелі,
Адляцелі камары.
Дударыкі,
Дударыкі,
Дударыкі-дудары.

Назаўсёды,
Назаўсёды
Мы сустрэліся ў бары.
Дударыкі,
Дударыкі,
Дударыкі-дудары!

## АДЦВІЛА ЮНАЧАЯ ВЯСНА...

*Б. Лябіхаву*

Адцвіла юначая вясна,
Сівізна на скронях, сівізна.

З барадою ці без барады,
Толькі ты — ужо не малады.

Колькі на вяселлях ні скачы,
Маладосць табе не зберагчы.

Адцвіла юначая вясна,
Сівізна на скронях, сівізна.

Толькі ёсць у гэтае пары
Самыя адметныя дары.

Хоць сумненні высыпаюць росна,—
Марыцца і думаецца ўзнёсла.

І нясуць яны цябе наперад,
А не як па плыні — рыбу ў нерат.

Вяжа час гады, нібы плыты,
Не загінуў на заторах ты.

І заўжды, насуперак бядзе,
Маладосць красуе і цвіце!

* * *

Заімшэлую памяць
Вам да скону гайдаць.
Дзе ж вучыліся ганіць,
З-за вуголля кусаць?
Не такі ўжо сірочы
Лёс,
Але не вярні
Мне бяссонныя ночы
І балючыя дні.
Не стагну і не плачу,
Крыўды ўсе залячу.
А дармовую ўдачу
Я ў жыцці не хачу.
Між прыязных і злосных
Я — не ўсім дабрадзей.
Ды не здатны да помсты,
Бо люблю я людзей.
Мудры голас суседа,
Поціск мужнай рукі,
Не для вас, караеды,
Не для вас, слізнякі.
Вам бы гэткія сілы,
Што аж жылы гудуць.
Як ні рэжце мне крылы,
Зноў яны адрастуць.

## НАЧНАЯ МУЗЫКА

Рабочыя хлопцы такуюць,
Ні зайздрасці тут, ні тугі,
Пакуль іх сяброўкі танцуюць,
Апісваюць плаўна кругі.

Нацешыць свабодай хлапечай
Жыццё бесклапотнае іх.
Ды нешта пад сэрцам трапеча,
Чаго і не скажаш услых.

Танцуюць,
Танцуюць сяброўкі,
Мільгаюць сукенкі-абноўкі,
А музыка?
Музыка ёсць?
Іх кружыць, іх кружыць,
Іх кружыць,
Іх кружыць сама маладосць.

Ліюцца чароўныя хвалі,
Плывуць у сцішэлыя далі
Над рэчкай,
Над полем,
Над гаем.
Іх чуюць усе, хто кахае.

* * *

Не верце гладзенькай дарозе,
Бо, часам, не туды вядзе.
Мне ўжо аднойчы давялося
Па ёй каціцца у бядзе.

Гула, раўла яна ў прасторы.
А я — нічый ні кум, ні сват,
Увесь дранцвеючы ад зморы,
Глытаў яе атрутны чад.

Не верце гладзенькім святошам,
Што толькі ведаюць — бубнець.
Пакуль яшчэ на свеце можам
Карпець над працаю і пець.

Іх языка асцерагайся,
Вітайся з імі, не вітайся,
Але заўсёды,— я прашу,—
Не раскрывай сваю душу.

У іх ёсць нешта за плячамі,
Чаго не ўцяміць нам — ані.
Не толькі ж з голаду — лычамі
Дзікі знішчаюць карані.

Але не ўзняцца ім,
Не ўзняцца,

Адчуць каб нашу радасць, боль.
Паверце:
Нас яны баяцца.
І ўся у гэтым, мабыць, соль.

## ЗОРКАПАД

Зоркапад над Беларуссю,
Зоркапад...
Зоры з неба падаюць у сад,
На палі, лугі,
На бор панылы,
Курганы і брацкія магілы.

Зарыва нябёсаў і зямлі
Ночы ў свае косы ўплялі.
Асвятляе ў змроку успаміны
Зорнае святло маёй Айчыны.

Сядзем жа маўкліва каля хат,
Каб паслухаць, як лапоча ціша.
Зоркапад асенні,
Зоркапад...
Ён пачуцці — зорнасцю калыша.

І, напэўна, гэткую пару
Нам прырода аддае дазвання,
Каб за пазухай не камень, а зару
Неслі мы не толькі да світання.

## ПЕРАЕМНАСЦЬ

Я пра дзяцей,
Я пра дзяцей
Задумваюся ўсё часцей.

Напэўна, я на той спіралі
Трывог жыццёвых і турбот,
Адкуль відаць не толькі далі,
А сонца захад і ўзыход.

Чаму такі нястомны дзяцел?
Чаму так доўга да вясны?
Ужо ў цікаўнасці дзіцяці
Гучыць разважнасць сівізны.

Я пра дзяцей,
Я пра дзяцей
Задумваюся ўсё часцей.

Хвалюе іх і час касмічны,
На шыбіне — марозны ўзор,
І ток таемны электрычны,
Жывіцаю прапахлы бор.

Усё, што накапілі продкі,
Каб у жыцці не разгубіць,
Патрэбна ім за час кароткі
Абдумаць і пераварыць.

Для тых, што і за імі прыйдуць
З імкненнем ясным да высноў,
О, колькі трэба ім разблытаць
Жыццём пакінутых вузлоў!

Не спадзяюся я на літасць.
Сумленны будзе іх прысуд,
Калі заўважаць працавітасць,
Якой пазначаны наш люд.

А тым, хто нам дарогі блытаў,
Пускаў у вочы толькі дым,
Хай ведаюць: народ наш выдаў
І пры жыцці пагарду ім.
І колькі ні было дарог,
Ён праўду Леніна збярог.

1

Вятры
Прастору пранізалі
Над магістральнай паласой.
Мяне прыцягваюць вакзалы
І грукатам, і мітуснёй.

Тым неадольным духам руху,
Што ў гулкіх сценах загусцеў.
Ён нават бабку-векавуху
Удалеч рушыць падагрэў.

О, божа!
Колькі тут народу!
І тых, каму няма і году,
Што, цмокаўкі зацяўшы ў рот,
Ляцяць на захад і на ўсход.

І, можа,
Недзе, у вагоне,
На нейкім дальнім перагоне,
Ён зробіць самастойны крок,
Матулі першынец-сынок.

Слязяцца вочы у бабулі,
Замнога бачылі яны...
Вось гуртам цыганы паснулі,
Прыроды вечныя сыны.

Дзяржава
Робіць ім паслугу:
Аседласць,
                праца,
                        дабрабыт...
Але жыве ў іх прага руху —
Душы цыганскае магніт.

Далей —
Вайскоўцы, ветэраны,
Службоўцы і той-сёй з сялян,
З букетам кветак — закаханы,
І з кульбаю — замежны пан.

Тут кошыкі, мяшкі і клункі,
І чамаданы, і пакункі,
І пад пахай дзецюка
Сыкуе дзюба гусака.

Сама сябе яна бадзёрыць,
Білет сціскаючы ў руках,
І ўжо старой надзея зорыць
Далёкі незнаёмы шлях.

Сядзіць бабуля,
                        як у лесе,
Хаця наўкол віруе люд.

Краіну, нібы у разрэзе,
Заўсёды можна ўбачыць тут.

2

Вакзалы!
Жыць вам без спачыну.
На ўсё вы маеце адказ:
І чым, і як жыве краіна,
І што нясе нам новы час.

Хвілінай кожнай,
Кожным годам,
Сваёй бяссоннаю душой
Вы знітаваныя з народам
Вятрыста-гулкай паласой.

Надзею страціўшы на бога,
Ратуючы наш род людскі,
На вас ускладвала эпоха
Свае гаротныя вянкі.

Гудкі!
З іх кожны быў, як клічнік,
На фоне сцюжы і снягоў,
Калі вас асвяціў Кастрычнік
Чырвоным полымем сцягоў.

Вы й сёння чуеце нязменна
У пазыўных касмічных дзіў
Той векапомны гул сірэны,
Што лад савецкі абвясціў.

Вакзалы!
Ў час трывог народных
Вы, у віры крутых падзей,
Былі прытулкам для гаротных,
Былі ратункам для людзей.

Спрадвеку
Вы як на замесе
Людскога шчасця і пакут...

Краіну, нібы у разрэзе,
Заўсёды можна ўбачыць тут.

Пад песні,
стогны
і праклёны,

У спёку,
лiўнi,
халады,
Праз вас, як быццам эшалоны,
Прайшлi суровыя гады.

3

Вакзалы,
станцыi,
паўстанкi,
Абрус асмужаных снягоў.
I песня маладой цыганкi
Пра шлях расстайны i любоў.

Яна, угрэўшыся,
спявала,
Уклаўшы першынца спярша.
Спявала, нiбы адтавала
Яе закляклая душа.

Драмалi
Цыганы на полках,
Паглядаў не кiдалi колкiх
I не бурчалi на яе,—
Няхай пацешыць,
Хай пяе.

О, як балюча набывала
Жыццё i песня новы смак,
Пакуль цыганка заспявала
Не за капейкi —
Проста так.

Яна спявала,
Як умела.
Нiхто б з нас
Адказаць не змог,

Як гэта песня уцалела
На скрыжаванні ўсіх эпох.

І хто ж збярог яе на свеце
Між гандляроў, сярод маны?

Мы ўсе, мы ўсе — прыроды дзеці,
У нейкім сэнсе — цыганы.

Гудзе
Наш табар чалавечы
І, падуладны новым дням,
На ўсе разлукі і сустрэчы
Кладзе адбітак новых драм.

Гульню спынілі
Хлопцы ў карты.
Спыніўся смех.
Аціхлі жарты.
Нібы задумаўся плацкартны:
Чаго мы ўсе на свеце варты?

4

Мне па душы вагонны быт
І пачуццё дарожнай зморы.
Гайдаецца вагон, як плыт,
На хвалях часу і прасторы.

Абшар,
Дрымотай не крані,
Разварушы пад сэрцам чула
Далёкія былыя дні
І тое, што ў душы заснула.

Заўсёды
Знойдуцца хвіліны
Зірнуць

Свайму былому ў твар,
Калі пражытага ўспаміны
Растуць на ніве даўніх мар.

І сёння
Мушу я згадзіцца
На магістральнай паласе:
Не ўсё на ніве каласіцца
І думкі выспелі не ўсе.

Ёсць і пустэча,
І прагалы
На ёй. І пустазелле ёсць.
І ўсё, што подбегам, няўдала
Мая зрабіла маладосць.

На ніве той
Пад родным небам
Глытаў і водар я, і дым,
Ды за чужым
Не гнаўся хлебам,
Як і за шчасцем за чужым.

І я даваў,
І мне давалі,
Ці гаспадар быў я,
Ці госць.
Закон такі на магістралі:
Дзяліцца скарбам,
Тым, што ёсць.

5

О, магістраль!
Мая стыхія!
Забыць мне памяць не дае
Вятры сустрэчныя, тугія,
Агні сігнальныя твае.

Масты,
тунелі,
віядукі,
Дзяжуркі рэйсавых брыгад,
Сяброў-чыгуначнікаў рукі
І юных праваднiц пагляд.

«Ах, праваднiцы, праваднiцы,
Мае дарожныя сястрыцы! —

Ім з паравоза я крычу.—
Вас пад вянец я падкачу,
А сам жаніцца не хачу!»

Дзяўчат
Прыпеўкай не збянтэжыш,
А толькі сам сябе насмешыш.

«Палюбіла б качагара,
Ды ў яго слабая пара.
Не дарос яшчэ кахаць,
Толькі — вугаль шураваць».

«Качагара я любіла
Ля самай чыгункі.
За два тыдні не адмыла
Яго пацалункі!»

І вось
Грукочуць гулка колы.
Над цягнікам аж свiшча дым.
Я малады быў і вясёлы,
І неазмрочаны нічым.

Ляцеў
І полем я, і лесам,
Дзівіўся, як прастор пяе,

І адчуваў, што з кожным рэйсам
Тужэюць мускулы мае.

Гайдаў
Душу маю і цела
Трывожна-радасны настрой.
І маладосць мая ляцела
Над магістральнай паласой.

6

Няхай
Плацкартны спіць вагон,
А я адвык спаць у дарозе.
Сон не бярэ мяне ў палон,
Як некалі — на паравозе.

Маршруты дальнія ўначы,
Лакаматыўная гайданка.
Дрымоту каб перамагчы,
Злятаў я долу на паўстанках.

Смяяўся
Машыніст Яўмен,
Прыпаўшы да акна на грудзі:
— З цябе, брат, вырасце спартсмен,
А машыніста — не, не будзе!

Затое
Як я спаў, калі
Дамоў вярталіся мы з рэйса!
Не спяць так, мабыць, каралі
І нават песняры прагрэса.

Я спаў.
Вайна ўжо адгула.
Я спаў.
Вярталіся салдаты.

Я спаў,
Ні роднага сяла,
Ні родных сцен,
Ні роднай хаты.

Нібы ўбіраў падлетка сон
У інтэрнатаўскім вагоне
Гаркоту ўсю блакадных дзён —
Пакуты, голад і бяссонне.

Тады мне — раніцай якраз —
Не верылася, што я выжыў.
На ўсё жыццё ваенны час
На мне свае узоры вышыў.

Быў я вясёлы, малады.
Няўжо, і праўда, гэта трэба —
Пабыць на самым дне бяды,
Каб шчасце мець
Пад родным небам.

7

Усе мы
Часу падуладны
На плыні клопатаў людскіх.
Дзе ты, вагончык інтэрнатны,
Прытулак светлых дзён маіх?

Ты — як гняздо ля магістралі
Між паравозаў і прысад,
Адкуль у свет мы вылятаті
І ўсё ж вярталіся назад.

І цёплым летнім адвячоркам,
Адмыўшы сажу, нібы грым,
Спявалі мы далёкім зоркам
І праваднікам маладым.

Напэўна,
Ў песні ёсць аснова
Той таямнічасці жыцця,
Перад якой нямее мова
Ад лішку мар і пачуцця.

Употай
Адчувалі ўсе мы
То боль, то радасць, то адчай.
Хоць тармазную ўсю сістэму,
Як пры аварыі, ўключай.

Навошта сіла і юрлівасць,
Калі іх нават неўпрыкмет
Перамагае сарамлівасць
Паміж дзяўчатак і кабет?

Гарачыя,
Тугія хвалі,—
Бунтуе маладая кроў.
У рэйс часцей нас пасылалі,
Каб мы не наламалі дроў.

Начальнікі павесялелі:
Не шурхнуць хлопцы
Пад адхон,—
Як толькі першыя вяселлі
Раскалыхалі
Наш вагон.

А з ляскатлівай магістралі
Са смехам нашы сябрукі
На застолле пасылалі
Віншавальныя гудкі.

8

Яшчэ не раз
Да нас да ўсіх

Парада машыніста прыйдзе:
— Шануйце, хлопцы, зрок і слых,
Больш думайце, менш гаварыце!

Лавіце ў рэйсе кожны гук
Лакаматыва і вагонаў,
Усе сігналы перагонаў,
Дрыготкіх колаў перастук.

Што нам нясуць зямля і неба —
Вы адчуваць павінны скрозь.
Бо нельга ўдалеч ехаць слепа
Ці шпарыць, хлопцы, на авось.

Стаць машыністам зможа кожны! —
Не верце гэтаму, сябры!
Стаць пасажырам можа кожны! —
Тут праўда, што ні гавары...

Вучыў Яўмен
Нас, маладых.
Я паўтару, не будзьце ў крыўдзе:
— Шануйце, хлопцы, зрок і слых,
Больш думайце, менш гаварыце!

І, дзе б ні працавалі вы,
Любому кідаецца ў вочы,
Як крэкча цяжкавагавы,
А паражняк — заўжды ляскоча.

9

Плывуць,
Плывуць зямля і неба.
Агні сігнальныя — пункцірам.
Відаць, і машыністу трэба
Быць час ад часу пасажырам.

Нібы адхілены ад рэйса,
Дзе ўздым,
дзе схіл,
а дзе раўніна,—
Я гукі хуткага экспрэса
Лаўлю і чуйна, і раўніва.

Па тым,
Як пругка стогнуць стыкі
Пры тармажэнні на хаду,—
Я машыніста ўсе пралікі
І ўсе пагрэшнасці знайду.

На роздум мой на прафесійны
Кладуцца чыстыя, як снег,
Людскія скаргі,
успаміны,
Парады,
жарты,
ціхі смех.

Паміж людзей я не самотны,
Бо адчуваю у душы:
Хоць тут нікому я не родны,
Я тут нікому не чужы.

10

Успомніў я словы Яўмена,
Перш чым з вагона сысці:
— Ну, вось і закончана змена,
Працоўная змена ў жыцці.

Хлусіць
Машыністы не ўмеюць.
Вы чуеце,
хлопцы,
сыны:

Калі машыністы старэюць,
У рэйс не выходзяць яны.

Злачынна
І слыхам,
                    і зрокам
Хваліцца у нашых гадах.
Бо гэта нам вылезе бокам
Не толькі на цягніках.

Трымайцеся ж,
                        хлопцы,
                                жывіце,
І пільна наперад глядзіце,
Нікому ў жыцці не хлусіце,
Больш думайце,
                        менш гаварыце!

Былі ўсе брыгады сабраны
На вечар не радасны той,
З якога ідуць ветэраны
На хатні спачын і спакой.

І як бы мы іх ні хвалілі,
І што б ні казалі ў той час,
Яны, безумоўна, ўзвалілі
Цяпер сваю ношу на нас.

У рытме ўрачыстага гула
Лягчэй не рабілася ім.
Іх гэта яшчэ больш прыгнула
І разгубіла зусім.

І нам,
Мы вастрэй адчувалі,
Не абмінуць гэтых дзён.
Такі ўжо закон магістралі
І руху наперад закон...

Яна у кожнага з нас ёсць,
На гэтым свеце пуцявіна,
Што нас вядзе праз маладосць
Да ўсіх трывог тваіх, Айчына.

Паміж спякоты і завей,
Нібы з акна лакаматыва,
Мінулае і перспектыва
З узростам бачацца ясней.

Заўсёды — лета ці зіма —
На магістралі гэтай вечнай
Няма палёгкі нам, няма
Да самай станцыі канечнай.

І чым яна да нас бліжэй,
Хоць і пад хмарамі нягоды,
Тым даражэй нам, даражэй
Жыцця нявысахлыя соты.

Кастра вячэрняга дымок,
Расісты поплаў на дасвецці.
І нават тое, што не змог
Як след зрабіць на гэтым свеце.

На магістральнай паласе
Бярыце, зменшчыкі, штурвалы.
Свой груз
Хай час
На вас нясе.
Вы — рэйкі звонкія.
Мы — шпалы.

# ЗМЕСТ

**Грачанікаў А.**

77 Дрэва на выспе. Вершы і паэма. Мн., «Маст. літ.», 1977.

112 с. з іл.

Прага жыццёвай гармоніі — у працы, каханні, ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі,— вось асноўная тэма новай кнігі Анатоля Грачанікава «Дрэва на выспе».

Г $\frac{70403\text{-}075}{М\ 302(05)\text{-}77}$ 43-77 Бел 2

Анатолий Семенович Гречаников

ДЕРЕВО НА ОСТРОВЕ

На белорусском языке

Рэдактар В. Б. Спрынчан. Мастак Л. І. Бетанаў. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. М. Вайцяшэня

ИБ № 194

АТ 10582. Здадзена ў набор 25/XI 1976 г. Падп. да друку 17/III 1977 г. Тыраж 4000 экз. Фармат 75×90 1/32. Папера глыб. друк. Ум. друк. арк. 4,37. Ул.-выд. арк. 3,27. Зак. 3766. Цана 38 кап. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.